www.nv-online.info

№ 1 (4150)

3 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## За снегападам прыйдуць моцныя маразы

З 3 студзеня, паводле прагнозаў сіноптыкаў, на Беларусь пачне паступаць больш халоднае паветра з поўначы Скандынавіі і пойдзе снег. Тэмпература паветра на працягу сутак будзе 0…-6°С. Раніцай і ўдзень **4 студзеня** моцны снег прагназуецца амаль па ўсёй краіне. Магчыма ўзмацненне ветру парывамі да 15–21 метра за секунду.

Ноч на чацвер **5 студзеня** яшчэ будзе слабамарознай, тэмпература паветра ноччу панізіцца да -3…-9°С, днём тэмпература складзе -5…+1°С, толькі па паўночным усходзе краіны яшчэ будзе крыху халадней.

З пятніцы, паводле прагнозаў сіноптыкаў, рэзка пахаладае, ударацць студзеньскія маразы. На праваслаўныя Каляды чакаецца да- 20°С.



## 2017: няхай будзе радасным і шчаслівым для ўсіх!



ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

# Не збочым!

Даўно не ўзгадваўся А.Пушкін, а вось учора толькі прыехаў у рэдакцыю, сеў за рабочы стол, як на памяць прыйшлі яго знакамітыя словы: *"Для всякого человека есть праздник, а для журналиста – никогда"*. Так выказаўся Аляксандр Сяргеевіч, які меў непасрэднае дачыненне да выдання "Литературной газеты", а таксама часопіса "Современник".

І сапраўды, другі дзень Новага года большасць людзей працягвалі святкаваць, а мы, супрацоўнікі "Народнай Волі", з самага ранку і да позняга вечара варажылі над нумарам, які вы, шаноўныя чытачы, зараз трымаеце ў руках. Не да адпачынку было, калі стаяла задача без спазнення ўпісацца ў графік работы друкарні, экспедыцыі па дастаўцы газеты ў рэгіёны, іншых партнёрскіх служб.

І ўсё ж, шаноўныя сябры, я спаслаўся на Пушкіна не для таго, каб паскардзіцца вам на рэдактарскі лёс, на тое, як нам, журналістам, цяжка дастаецца выпуск "Народнай Волі". Наадварот, хачу ў нейкай меры абвергнуць сусветнага генія. Вось ужо дваццаць другі год для мяне і для тых, хто ўвесь гэты час падстаўляў мне сваё плячо, вялікае свята – выдаваць газету, не звяртаючы ўвагі на тыя ці іншыя складанасці. Вы ведаеце, праз якія выпрабаванні давялося нам прайсці (і друкаванне газеты ў Вільнюсе, Смаленску, і шматлікія суды, і непамерныя штрафныя санкцыі, і пагрозы забойства…), але мы зрабілі ўсё, каб не загінула наша вольная дэмакратычная ластаўка. І сёння ад супольнай працы над чарговым нумарам кожны з нас, народавольцаў, атрымлівае творчую асалоду. Наша радасць грунтуецца ў першую чаргу на тым, што мы робім патрэбную справу. Для Беларусі, для ўсяго беларускага народа.

Без усялякай пафаснасці скажу: для нас галоўнае – гэта апраўдаць ваш, шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі", давер. І ў 2017-м мы будзем старацца радаваць Вас цікавымі, змястоўнымі, актуальнымі публікацыямі, даваць як мага больш эксклюзіўнай інфармацыі для роздуму над тымі вострымі праблемамі, якія вылучае час, найноўшая гісторыя.

Наш творчы шлях не ўсыпаны ружамі, але ж мы не сыдзем з яго, не збочым з тых прынцыповых пазіцый, якія адстойвалі на працягу двух з лішнім дзесяцігоддзяў. Трымаліся ўсе гады дэмакратычнага накірунку – і будзем трымацца! Спрыялі адлюстраванню плюралістычных поглядаў – не адмовімся ад гэтага і ў будучым. Чаплялі вострым пяром тых, хто не ўладах з сумленнем і законнасцю, – пад прыцэлам такія асобы застануцца і надалей. Не памятаю, каму належаць наступныя словы, але я люблю іх паўтараць: крытыка – наждак для іржы.

"Народная Воля" – не служанка тых ці іншых сіл, кланаў. У той жа час старонкі газеты былі і застаюцца даступнымі для тых, каго хвалюе лёс Беларусі, яе сённяшні і заўтрашні дзень. Невыпадкова на адной з прэс-канферэнцый А.Р.Лукашэнкі я прапанаваў выкарыстаць пляцоўку "Народнай Волі" для агульнанацыянальнай дыскусіі па найбольш праблемных пытаннях развіцця краіны, дзяржавы, грамадства. Здавалася, апазіцыя першай кінецца рэалізоўваць гэтую надзвычай актуальную ідэю. Ды дзе там! Міналі тыдні, месяцы, а ў лідараў палітычных партый, грамадскіх рухаў як быццам мову адняло. І я, помню, у адным са сваіх артыкулаў рэзка выказаўся на адрас тых, хто ціха адмёў маю ідэю аб правядзенні "круглага стала", які мог бы стаць лёсавызначальным для Беларусі. Дзеля праўды трэба сказаць: А.Лукашэнка тады падтрымаў маю прапанову, нават сказаў, што ў пасяджэнні за "круглым сталом" возьмуць удзел прадстаўнікі Савета бяспекі. А вось тыя, хто павінен быў ухапіцца за гэта, як за выратавальную саломінку, у адказны момант схаваліся ў кусты.

Я іншы раз чую: не драматызуйце сітуацыю, у краіне спакойна – і дзякуй Богу! На першы погляд апаненты як быццам маюць рацыю. А калі глыбей паглядзець? На могілках таксама ціха, але ж там няма жыцця. Калі не падштурхоўваць улады, тыя ж палітычныя партыі, рухі да сумесных рашучых дзеянняў на карысць усяго грамадства, то сённяшняя падманлівая стабільнасць заўтра ператворыцца ў магільную цішыню. А то і выбухне такім майданам, што зямля задрыжыць. Вось чаму "Народная Воля" шчыпала і будзе шчыпаць усіх, хто засынае на хаду, хто забывае пра сваю канкрэтную місію.

У змаганні за Беларусь дэмакратычную, за Беларусь прававую рэдакцыйны калектыў "Народнай Волі" і надалей будзе апірацца на Вас, шаноўныя чытачы. І прыемна адзначыць, што кола прыхільнікаў газеты не звужаецца. Пра гэта, дарэчы, сведчаць вынікі чарговай падпісной кампаніі. Дзякуй Вам, шаноўныя сябры, за вернасць газеце, за падтрымку яе сваімі зберажэннямі.

Я не буду ў дэталях распісваць нашы творчыя планы на 2017 год. Скажу толькі: ёсць шмат новых задумак. У прыватнасці, больш увагі будзем надаваць жыццю ў рэгіёнах. Пад абстрэл возьмем так званых мясцовых князькоў. А то што ж бачым: у раёне ўсё валіцца, простыя людзі марнеюць, не могуць звесці канцы з канцамі, а начальнікі і начальнічкі будуюць для сябе і сваіх сямейнікаў камунізм. Зразумела ж, не за афіцыйныя зарплаты, а абкрадаючы тыя ж працоўныя калектывы, дзяржаву. Вунь як глыбока пусціла карані карупцыя! Адным словам, шырокае поле для дзейнасці "Народнай Волі".

Па рэдакцыйнай пошце заўважаю: людзі стаміліся змагацца з мясцовымі бюракратамі, якія фармальна як быццам дзейнічаюць па законе, а на самай справе – з іх боку адбываецца не што іншае, як жудасны здзек з чалавека. Тым чынушам, якія ў 2017 годзе трапяць пад каток "Народнай Волі", не паздаровіцца!

Не, для нас, народавольцаў, якія прайшлі агонь, ваду і медныя трубы, галоўнае не скандальнасць, не самапіяр, а **ПРАЎДА і абарона ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.** Стаялі на гэтым і стаяць будзем! Не дарэмна мы часта паўтараем на старонках газеты адзін і той жа слоган:

**Вы – з "Народнай Воляй",**
**"Народная Воля" – з Вамі!**

Разам мы выжывем, разам пабудуем дэмакратычную Беларусь!

З Новым годам Вас, шаноўныя! З Нараджэннем Хрыстовым!

Міру, спакою, дабрабыту кожнаму дому, кожнай сям'і!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты «Народная Воля».**

В МИРЕ

## В Стамбуле задержаны восемь человек

Их подозревают в причастности к террористическому акту в ночном клубе Reina, совершенному в новогоднюю ночь.

Не ясно, удалось ли полиции установить личность террориста, который устроил стрельбу в клубе. Как известно, в результате теракта погибли 39 человек, из них 16 иностранцев, в том числе граждане России, Индии, Канады, Сирии, Израиля, Туниса, Ирака, Ливана, подданные Бельгии и Саудовской Аравии. Еще 69 человек получили ранения. Ответственность за теракт взяло на себя Исламское государство.

Также вчера появилась информация о возможной причастности к нападению гражданина Узбекистана или Кыргызстана.

## Взрыв в Багдаде: погибли 35 человек

Вслед за Стамбулом террористический акт совершен в Багдаде. В результате взрыва смертника на заминированном автомобиле в столице Ирака погибли, по предварительным данным, 35 человек, 61 человек получил ранения.

Среди погибших – трое полицейских.

Как сообщили представители местной полиции, взрыв произошел на оживленной площади в населенном преимущественно мусульманами-шиитами районе Садр-сити.

НА СУВЯЗІ – КІЕЎ

## Лёс Данбаса будзе вырашаны ў 2018 годзе

Украінскія ўлады спадзяюцца вярнуць кантроль над Данбасам у 2018 годзе. Такую заяву зрабіў намеснік міністра па справах часова акупіраваных тэрыторый Георгій Тука.

Пры гэтым ён абмовіўся, што ў той жа час Кіеву "крытычна важна захаваць падтрымку Еўропы і Злучаных Штатаў Амерыкі".

С ЮБИЛЕЕМ!

## Станислав БОГДАНКЕВИЧ: «Живой-здоровый, только один раз получил когда-то дубинкой по голове»

Человек твердых убеждений, известный общественный деятель, экс-председатель Национального банка, один из создателей Объединенной гражданской партии **Станислав Богданкевич** отметил 1 января (по чудесному совпадению в День банкира) большой юбилей – 80-летие со дня рождения. "Народная Воля", с трудом прорвавшись через постоянно занятые телефоны, взяла у Станислава Антоновича блиц-интервью.

**– Из чего сегодня состоит ваша жизнь?**

– Признаюсь – это диван. Имею право, я на пенсии. Ну и журналисты не дают покоя. Плюс «круглые столы» по экономической тематике, общественная деятельность…

**– А из каких источников вы сегодня получаете информацию?**

– Ну вот являюсь постоянным читателем «Народной Воли»; смотрю интернет-сайты, ТВ, даже украинский канал "112 Украина" – очень боевой, независимый, критикует всех и вся. Там устраивает большие дискуссии Шустер. Украинская экономическая жизнь в сравнении с нашей более перспективная. Я вижу у них определенное поступательное развитие. У нас его нет. А там идет большая работа в законодательной сфере, принимается много правильных законов по экономическим вопросам. Результата пока нет, потому что коррупция сплошная! Но последнее законодательное решение о том, чтобы все чиновники представляли декларацию о доходах и имуществе, – огромный сдвиг, прогресс. Общество пытается навести порядок. Есть стремление к очищению. А у нас власть совсем пала духом.

**– Какие люди вам особенно запомнились на вашем жизненном пути?**

– У меня были очень близкие отношения с демократами России:




Шохиным, Чубайсом, Гайдаром, Немцовым. С удовольствием вспоминаю свое знакомство с известным экономистом, автором польских экономических реформ Бальцеровичем, по его приглашению читал лекции в Варшавском университете. Встречался с президентом Украины Ющенко. Мы вместе с ним были в Чикаго, тоже читали лекции в университете, зарабатывали деньги – он же бывший банкир, поэтому нам было о чем поговорить.

Что касается Беларуси, то самые тесные контакты у меня с Шушкевичем, Грибом, Новиковым – они мои большие друзья по Верховному Совету. А по Объединенной гражданской партии – это Лебедько, Добровольский, Шлындиков. Тесные связи с Чигирем. Когда его назначали премьером, он от Лукашенко поехал сразу ко мне: идти или не идти на этот пост, советовался. Я ему сказал: "Конечно, долго ты не задержишься. Но зато будет в стране твой этап премьерства".

**– Как вы оцениваете сегодняшнюю деятельность Объединенной гражданской партии?**

– Я оцениваю ее абсолютно объективно. Всегда говорю критикам: какой народ – такая и власть, какой народ – такая и оппозиция. Если народ только на кухнях высказывает свою точку зрения, то и нечего пенять на слабое влияние оппозиции. В дни выдвижения кандидатов в депутаты Палаты представителей моя жена решила пойти по квартирам нашего подъезда и собрать подписи. Все у нас знают друг друга, со мной раскланиваются, все большие демократы в разговорах. А подписи не поставили! Так за что упрекать оппозицию? А вы сами почему сидите как мыши под веником? Чего боитесь? Я им говорю: вот живу 80 лет – и ни разу не посадили. А ведь свободно по телефону говорю все, что думаю. Обсуждаю негодную экономическую модель, которая привела страну к регрессу. И ничего, живой-здоровый, только один раз получил когда-то дубинкой по голове – депутатом еще был.

**– Вы совершали ошибки, о которых жалеете до сих пор?**

– Я ни о чем не жалею. Горжусь тем, что сумел прожить 80 лет, отстаивая свои принципы. Я никогда ни перед кем не лебезил. Еще при советской власти, будучи управляющим районным банком, не боялся говорить что думаю. Окружающие качали головой: как вы можете? Даже друг юности осуждал меня. А я ему как-то ответил: "Не боялся и стал председателем Нацбанка и доктором наук, а ты боялся и дальше секретаря райкома партии не пошел". Потому что если убежден, то действуй.

**Елена МОЛОЧКО.**

ДЗВЕ ЦЫТАТЫ

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*– Да 2015 года мы павінны наблізіць памеры заработнай платы да тысячы долараў у эквіваленце.*

**(З выступлення на Усебеларускім сходзе 8 снежня 2010 года.)**

* * *

АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:

*– Пяцьсот долараў налета сярэдні заробак. Пры ўсіх цяжкасцях, чаго б гэта ні каштавала. Скрадзіце, адкапайце, знайдзіце, што заўгодна. Але пяцьсот долараў мусіць быць выканана.*

**(З размовы 21 снежня 2016 года з толькі што прызначанымі новымі кадрамі Адміністрацыі прэзідэнта – Наталляй Качанавай і Максімам Рыжанковым.)**



БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

Як тут не ўзгадаць бальшавіцкага правадыра У.Леніна, адна з прац якога называецца "Шаг вперед, два шага назад". Ці ж не так крочыць Беларусь? Яшчэ ў 2015 годзе мы павінны былі мець сярэдні заробак у 1000 долараў. Мінуў год, і нам ужо абяцаюць толькі 500 "зялёных", вядома ж, у эквіваленце.

Ну ці ж не па-ленінску: два крокі наперад, адзін – назад? А калі быць больш дакладным, то два крокі назад.

Для разумных людзей усё зразумела: нельга чакаць іншага ў краіне, дзе і па сённяшні дзень пануе бальшавіцкая ідэалогія, дзе працягваюць ставіць помнікі Леніну, чалавеку, крывавы эксперымент якога на пачатку мінулага стагоддзя абярнуўся пазней мільёнамі ахвяр.

РЭГІСТРАТУРА

## Не толькі для чыноўнікаў

Вядома, што ў лясным масіве пад Мінскам ударнымі тэмпамі ўзводзіцца новая клініка Кіраўніцтва спраў прэзідэнта, так званая лечкамісія. Але ў гэтым годзе ў сталіцы мяркуецца вялікая праграма па аб'ектах аховы здароўя, дзе лечацца простыя грамадзяне. Паводле слоў старшыні Камітэта будаўніцтва і інвестыцый Мінгарвыканкама **Дзмітрыя Гурыненкі,** *«яна прадугледжвае новае будаўніцтва і рэканструкцыю карпусоў 4-й, 5-й, 6-й, 9-й бальніц, Мінскага гарадскога анкалагічнага дыспансера. Таксама пачнецца праектаванне паліклінік у жылым раёне "Лошыца" і пасёлку Усходнім».*

ДА ВЕДАМА

## Перанос працоўных дзён

Савет міністраў зацвердзіў графік пераносу працоўных дзён у 2017 годзе. Паводле дакумента, перанос працоўных дзён будзе наступным:

панядзелак 2 студзеня – на суботу 21 студзеня;
панядзелак 24 красавіка – на суботу 29 красавіка;
панядзелак 8 мая – на суботу 6 мая;
панядзелак 6 лістапада – на суботу 4 лістапада.

Пры гэтым арганізацыі маюць права рабіць перанос працоўных дзён у іншым парадку з улікам спецыфікі вытворчасці.

СТАТЫСТЫКА



# Іх узрост…

*Давайце прааналізуем, хто будзе кіраваць краінай у 2017 годзе, які ўзрост прэзідэнта, кіраўніка яго Адміністрацыі, прэм'ер-міністра, старшынь палат Нацыянальнага сходу і ўсяго ўрада.*

| Прозвішча і пасада | Узрост |
|---|---|
| **ЛУКАШЭНКА Аляксандр Рыгоравіч,** прэзідэнт Рэспублікі Беларусь | 62 гады |
| **КАБЯКОЎ Андрэй Уладзіміравіч,** прэм'ер-міністр | 56 гадоў |
| **АНДРЭЙЧАНКА Уладзімір Паўлавіч,** старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь | 67 гадоў |
| **МЯСНІКОВІЧ Міхаіл Уладзіміравіч,** старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь | 66 гадоў |
| **КАЧАНАВА Наталля Іванаўна,** кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь | 56 гадоў |
| **СЯМАШКА Уладзімір Ільіч,** намеснік прэм'ер-міністра | 67 гадоў |
| **РУСЫ Міхаіл Іванавіч,** намеснік прэм'ер-міністра | 62 гады |
| **ЗІНОЎСКІ Уладзімір Іванавіч,** міністр эканомікі | 61 год |
| **ЖАРКО Васілій Іванавіч,** намеснік прэм'ер-міністра | 60 гадоў |
| **ПАПКОЎ Сяргей Пятровіч,** міністр сувязі і інфарматызацыі | 59 гадоў |
| **АМЕЛЬЯНОВІЧ Міхаіл Міхайлавіч,** міністр лясной гаспадаркі | 58 гадоў |
| **ВАШЧАНКА Уладзімір Аляксандравіч,** міністр па надзвычайных сітуацыях | 58 гадоў |
| **ЗАЯЦ Леанід Канстанцінавіч,** міністр сельскай гаспадаркі і харчавання | 58 гадоў |
| **СВЯТЛОЎ Барыс Уладзіміравіч,** міністр культуры | 58 гадоў |
| **МАКЕЙ Уладзімір Уладзіміравіч,** міністр замежных спраў | 58 гадоў |
| **ПАТУПЧЫК Уладзімір Мікалаевіч,** міністр энергетыкі | 58 гадоў |
| **ЧОРНЫ Анатолій Барысавіч,** міністр архітэктуры і будаўніцтва | 58 гадоў |
| **ШЧОТКІНА Марыяна Акіндзінаўна,** намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь | 58 гадоў |
| **КАЛІНІН Анатолій Мікалаевіч,** намеснік прэм'ер-міністра | 57 гадоў |
| **ПІРШУК Баляслаў Казіміравіч,** намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь | 57 гадоў |
| **АНАНІЧ Лілія Станіславаўна,** міністр інфармацыі | 56 гадоў |
| **КАЎХУТА Андрэй Марленавіч,** міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя | 56 гадоў |
| **АМАРЫН Уладзімір Віктаравіч,** міністр фінансаў | 55 гадоў |
| **СІВАК Анатолій Аляксандравіч,** міністр транспарту і камунікацый | 54 гады |
| **ВОЎК Віталій Міхайлавіч,** міністр прамысловасці | 54 гады |
| **ЛАПО Анатолій Пятровіч,** старшыня Дзяржаўнага памежнага камітэта | 53 гады |
| **ВАКУЛЬЧЫК Валерый Паўлавіч,** старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі | 52 гады |
| **КАРПЕНКА Ігар Васільевіч,** міністр адукацыі | 52 гады |
| **КАЛТОВІЧ Уладзімір Васільевіч,** міністр антыманапольнага рэгулявання і гандлю | 50 гадоў |
| **МАЛАШКА Валерый Анатольевіч,** міністр працы і сацыяльнай абароны | 50 гадоў |
| **РАЎКОЎ Андрэй Аляксеевіч,** міністр абароны | 49 гадоў |
| **СЯНЬКО Юрый Аляксеевіч,** старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта | 49 гадоў |
| **ШУНЕВІЧ Ігар Анатольевіч,** міністр унутраных спраў | 49 гадоў |
| **ШАМКО Аляксандр Ігаравіч, міністр спорту і турызму** | 48 гадоў |
| **МАЦЮШЭЎСКІ Васілій Станіслававіч,** віцэ-прэм'ер | 47 гадоў |
| **СЛІЖЭЎСКІ Алег Леанідавіч,** міністр юстыцыі | 44 гады |
| **НАЛІВАЙКА Сяргей Эдуардавіч,** міністр па падатках і зборах | 43 гады |
| **ЦЕРАХАЎ Аляксандр Аляксандравіч,** міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі | 38 гадоў |

**P.S.** На сённяшні дзень пасада міністра аховы здароўя вакантная.

ТРАГЕДЫЯ

# «Навошта было сына расстрэльваць, як нейкага рэцыдывіста?..»

*У навагоднюю ноч супрацоўнік міліцыі страляў у 28-гадовага мінчаніна, які пасля гэтага аказаўся ў рэанімацыі.*



Як інфармуе сайт ГУУС Мінгарвыканкама, сітуацыя развівалася наступным чынам:

*“1 студзеня 2017 года ў 6.40 раніцы ў міліцыю патэлефанавалі і паведамілі, што ў адной з кватэр дома па праспекце Любімава шумяць, перашкаджаюць адпачываць. Па гэтым адрасе быў накіраваны супрацоўнік гарадскога аддзела міліцыі №2 сяржант міліцыі С.*

*Калі сяржант прыйшоў на месца, то пачуў шум. На званок дзверы адкрыў грамадзянін Г. Супрацоўнік міліцыі прадставіўся, патлумачыў прычыны візіту. У адказ грамадзянін Г., які знаходзіўся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, нанёс удар супрацоўніку міліцыі ў вобласць грудзей, пасля чаго – яшчэ серыю ўдараў у вобласць галавы, а затым паспрабаваў захапіць табельную зброю.*

*Супрацоўнік міліцыі гэтую спробу спыніў. Спачатку ён зрабіў вуснае папярэджанне, потым – папераджальны стрэл. Грамадзянін на гэта не адрэагаваў, і тады супрацоўнік міліцыі зрабіў два стрэлы і параніў дэбашыра. У выніку грамадзянін дастаўлены ў медыцынскую ўстанову, прааперыраваны, яго жыццю нічога не пагражае. Супрацоўнік міліцыі дастаўлены ў шпіталь МУС з чэрапна-мазгавой траўмай. Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа па ст.363, ч.2 Крымінальнага кодэкса Беларусі (супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якія ахоўваюць грамадскі парадак).*

Тым часам блізкія параненага 28-гадовага Андрэя Т. лічаць, што не ўсё адбывалася так, як прадстаўлена ў версіі міліцыі.

*“Як толькі муж адкрыў дзверы, я пачула хлапкі і крыкі,* – распавяла яго жонка **Анастасія.** – *Першай у тамбур выбегла мая сястра, і міліцыянер адразу ж наставіў на яе пісталет. Я ўбачыла мужа, які ляжаў на падлозе. Ён быў увесь у крыві. Міліцыянер двойчы стрэліў у яго. Я не паспела з міліцыянерам пагаварыць, ён збег. Калі спрабавала спыніць кроў, побач са мной стаялі яшчэ два міліцыянеры. Я не ведаю, ці прыйшлі яны адразу альбо пазней”.*

Паводле слоў **Галіны Іванаўны,** маці Андрэя, зараз сын знаходзіцца пад аховай у Галоўным ваенным клінічным шпіталі, дзе яна і збіралася яго ўчора наведаць.

– Кампанія з васьмі чалавек (пераважна ўсе – сямейныя пары) адзначала ў кватэры Новы год, – распавяла яна “Народнай Волі”. – Гучна іграла музыка, хтосьці з суседзяў выклікаў міліцыю. Затым быў званок, сын пайшоў адчыняць дзверы адзін. Далей – стрэлы, сына з раненнямі ў спіну і ў нагу адвезлі ў шпіталь. Я затым пайшла ў апорны пункт міліцыі, які знаходзіцца акурат ля дома, папрасіла назваць прозвішчы тых міліцыянераў, якія выязджалі на месца здарэння. Мне адмовілі ў прадастаўленні такой інфармацыі, але паведамілі, што Андрэй сам кінуўся на супрацоўніка міліцыі. Хаця ў руках у сына нічога ж не было. Навошта было сына расстрэльваць, як нейкага рэцыдывіста?..

**– 2 студзеня вы паспрабавалі наведаць яго ў шпіталі…**

– Мяне не пусцілі, урач, з якім давялося пагутарыць, сказаў, што ніякай інфармацыі мне даваць не будзе. Маўляў, на гэта патрэбны дазвол сына. Але паведаміў, што яго стан стабілізаваўся, ён ужо размаўляе. І ў той жа час з рэанімацыі пакуль не пераводзяць. Ахову паставілі – аж трох чалавек. Знайшлі злачынцу!

**– ГУУС Мінгарвыканкама тым часам паведамляе, што супрацоўнік міліцыі таксама дастаўлены ў шпіталь з чэрапна-мазгавой траўмай.**

– Раней быццам бы казалі, што ў міліцыянера проста гематома, а зараз ужо размова ідзе пра чэрапна-мазгавую траўму. Але ў Андрэя ў руках нічога не было, акрамя мабільнага тэлефона…

***

Адным словам, у гэтай справе хапае супярэчлівай інфармацыі, але кропкі над “і” павінна расставіць следства.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЦЭНЫ

## Беларусь з 1 студзеня знізіла экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты

*Папярэдні раз стаўкі вывазных мытных пошлін адносна сырой нафты і асобных катэгорый тавараў, выпрацаваных з нафты, змяняліся 1 снежня. Тады яны былі таксама зніжаны.*

Як паведамляе прэс-служба ўрада, стаўка экспартнай пошліны на сырую нафту будзе зніжана з 90,4 дол. да 79,1 дол. за 1 тону. Пошліна на прамагонны бензін знізіцца з 64,1 дол. да 43,5 дол. за 1 тону, на таварныя бензіны – з 55,1 дол. да 23,7 дол. за 1 тону. Пошліна на лёгкія, сярэднія дыстыляты складзе 23,7 дол. за 1 тону (была 36,1 дол.). Такая ж пошліна ўстаноўлена адносна дызельнага паліва, бензолу, талуолу, ксілолаў, змазачнага і іншага масла.

ЗДАРЭННЕ

## У першы дзень года на пажары загінулі трое мужчын

*І гэта толькі ў Мінскай вобласці*

Пачаўся Год Вогненнага Пеўня на Міншчыне з трох пажараў: 1 студзеня гарэлі хаты ў Клецкім, Крупскім і Пухавіцкім раёнах.

У Клецкім раёне ад агню ніхто не пацярпеў. А вось у вёсцы Вераб'ёўка Пухавіцкага раёна ў выніку пажару ў жылым доме загінуў брат гаспадара. У вёсцы Якімаўка Крупскага раёна ў агні загінулі адразу двое – гаспадар дома і яго сын.

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

Вера ЗАЯЦ:

# «Сітуацыя такая, быццам нікому нічога не трэба…»

*Карэспандэнт «Народнай Волі» пабываў на адной з ферм КУСГП “Зялёнка” Полацкага раёна і даведаўся, як працуецца і жывецца яе работнікам.*

### Двое замест чатырох

Малочна-таварная ферма знаходзіцца ў 15 кіламетрах ад Полацка. Сёння тут налічваецца 180 кароў. Працуюць усяго дзве даяркі, хоць на добры лад трэба было б мець чатыры. Нягледзячы на тое, што ўсе працэсы механізаваныя і аўтаматызаваныя, у штат фермы ніхто не просіцца.

*– Засталіся дзве даяркі і я,* – расказвае брыгадзір фермы Вера Заяц. – *Я таксама даю кароў, каб у дзяўчат хоць адзін дзень быў выхадны. У мяне наогул няма магчымасці адпачываць, працую без выхадных. З кастрычніка так і жывём: адна даярка звольнілася, другая пайшла на пенсію.*

Я пацікавіўся заробкамі. Аказваецца, зімой яны вельмі і вельмі нізкія – 180–200 рублёў у месяц, ды і гэтыя капейкі могуць затрымаць. Менавіта з-за нізкай зарплаты і цяжкай працы ніхто на работу і не ідзе.

З Верай Васільеўнай размаўляем падчас дойкі – у жанчыны няма лішняй хвіліны, каб спакойна пагаварыць. У абавязкі даярак уваходзяць таксама ўборка, кармленне жывёл.

Можаце сабе ўявіць: каб не спазніцца на працу, жанчыны падымаюцца ў тры гадзіны ночы. Па графіку ў чатыры раніцы ўжо пачынаецца першая дойка. З вёскі Сухі Бор, дзе жыве Вера Заяц, да фермы каля кіламетра.

Ранішняя дойка займае дзве гадзіны. У 6 раніцы жыхарка Сухога Бора спяшаецца дадому, каб сабраць дзяцей у школу і садок, а мужа праводзіць на працу: Аляксандр – трактарыст у гаспадарцы «Зялёнка». Вера Васільеўна, дарэчы, маці пяцярых дзяцей, а з нядаўняга часу і бабуля.

Акрамя асноўнай работы ў даярак яшчэ і свае гаспадаркі: свінні, куры, каровы, агарод. У 10 гадзін жанчыны зноў на ферме – у гэты час пачынаецца дзённая дойка. А яшчэ ёсць і вячэрняя. Дадому работніцы фермы трапляюць позна.

– *У каго дзеці дарослыя, то дапамагаюць, ім лягчэй,* – распавядае пра свой працоўны дзень Вера Заяц. – *Але і з асабістай гаспадаркай управіцца трэба. За столькі гадоў арганізм прывык. Я, напрыклад, сплю не больш за 3–4 гадзіны…*

### Мара, якая не спраўдзілася

Нягледзячы на цяжкую працу і графік без выхадных, Вера Заяц не губляе аптымізму. Прызнаецца, што была магчымасць змяніць месца працы, але адмовілася.

– *А хто тут застанецца?* – пытаецца даярка са стажам. – *Кароў я кінуць не магу. Запрашалі і санітаркай, і сацыяльным работнікам, але не маё гэта ўсё. Таму буду дапрацоўваць тут… Праз тры гады на пенсію, спадзяюся, што закон не зменіцца.*

Калі Вера Заяц не хоча мяняць прафесію, вобразна кажучы, па ідэйных меркаваннях, то яе калега Алена Тачалоўская працуе з-за жылля. Даяркай на гэтай ферме яна робіць ужо восьмы год. Да гэтага Алена з сям'ёй жыла ў Полацку і была прадаўцом.

– *Так склаліся абставіны, што давялося пераехаць у вёску,* – расказвае Алена Уладзіміраўна. – *Да пераезду не ведала, як карову даіць. Але жыццё прымусіла: у горадзе паўсталі цяжкасці з жыллём, а тут далі дом.*

Паводле слоў даяркі, калі яна звольніцца з працы, то сям'я застанецца без даху над галавой. Муж Алены працуе ў лясніцтве, якое не адносіцца да гаспадаркі «Зялёнка».

З-за недахопу грошай прыватызаваць жыллё таксама не атрымалася.

– *Нягледзячы на цяжкасці, трэба працаваць,* – кажуць даяркі з Зялёнкі. – *Перазімуем, а вясной – цяплей і лягчэй…*

Размаўляючы з жанчынамі, я зразумеў, што сітуацыя ў сельскай гаспадарцы з кожным годам пагаршаецца: спецыялістаў не хапае, заробкі нізкія, пагалоўе жывёлы памяншаецца.

– *Сітуацыя такая, быццам нікому нічога не трэба,* – з крыўдай кажа Вера Васільеўна. – *Вёска співаецца ...*

Была ў Веры Заяц даўняя мара, якая, напэўна, ужо і не збудзецца. Шматдзетная маці хацела атрымаць правы кіроўцы, але часу на аўташколу ўсё не хапала. Нядаўна да рэалізацыі мары заставаўся літаральна адзін крок, жанчына нават прайшла медыцынскую камісію, але...

– *Вучыцца і садзіцца за руль забараніў муж,* – смяецца даярка з Зялёнкі. – *Прыраўнаваў да руля, таму і далей буду хадзіць пешшу...*

Новы год Алена Тачалоўская і Вера Заяц сустрэлі са сваімі сем'ямі. Праўда, святочная ноч не вызваліла даярак ад працы, і ўжо ў чатыры гадзіны яны прыступілі да дойкі кароў.

Цікаўлюся ў жанчын, якія жаданні загадалі за сталом. Меркаваў, што папрасілі больш грошай, машыну ці кватэру ў горадзе, але памыліўся…

– *Галоўнае, каб здароўе ў дзяцей і ўнукаў было,* – кажуць даяркі. – *Ну і ў нас, вядома, каб ім дапамагаць маглі. А яшчэ хаця б адну даярку на ферму, а лепш дзве* (смяюцца).

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

*Полацкі раён.*

Фота аўтара.



БІЯТЛОН

## Яна вяртаецца!

*На біятлоннай трасе трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава можа з'явіцца ўжо 6 студзеня.*




Як пацвердзілі ў Беларускай федэрацыі біятлона, Домрачава ўключана ў папярэднюю заяўку зборнай Беларусі на чацвёрты этап Кубка свету па біятлоне ў Аберхофе.

Калі спартсменка выйдзе на старт, для яе гэта будуць першыя афіцыйныя спаборніцтвы ў новым сезоне пасля нараджэння дачкі Ксеніі.

Чацвёрты этап Кубка свету па біятлоне пачнецца ў нямецкім Аберхофе 5 студзеня мужчынскай спрынтарскай гонкай, 6 студзеня на старт выйдуць жанчыны.

ФАКТ

## Базавая велічыня складае 23 рублі

Новая лічба ўстаноўлена з 1 студзеня пастановай Саўміна №974.

Апошнім разам базавая велічыня павышалася год таму. 1 студзеня 2016 года, да дэнамінацыі, яна была павялічана са 180 тысяч да 210 тысяч рублёў.

Як вядома, базавая велічыня была ўведзена ў Беларусі 1 сакавіка 2002 года. Яна выкарыстоўваецца для падліку розных паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.

Першая базавая велічыня складала 10 тысяч рублёў. Амаль за 14 гадоў яна павялічылася ў 18 разоў.

ЧУЛІ?

## Больш за 20 беларусак сталі мамамі пасля трансплантацыі ныркі

То, што Беларусь сёння лідар сярод краін СНД па колькасці выкананых аперацый па перасадцы органаў, не навіна. А вось тое, што, перажыўшы складаныя аперацыі, пацыенты беларускіх трансплантолагаў не проста вяртаюцца да нармальнага жыцця, а нават нараджаюць дзяцей, ведаюць, напэўна, нямногія.

Кіраўнік аддзела нефралогіі, замяшчальнай ныручнай тэрапіі і трансплантацыі ныркі РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак **Алег Калачык** падчас навагодняй імпрэзы для дзяцей, якія перанеслі перасадку органаў, арганізаванай у цэнтры, заявіў, што ганарыцца сваімі пацыентамі, якія пасля ўмяшальніцтва гадуюць дзяцей. І прывёў такую статыстыку: у Беларусі на сёння больш за 20 жанчын сталі маці пасля трансплантацыі ныркі. А гісторыя адной сям'і кранула да сэрца.

Максім і Марына з Магілёва пазнаёміліся ў бальніцы яшчэ падлеткамі. Абодва прайшлі праз перасадку ныркі: у сакавіку 2007-га аперацыю зрабілі Марыне, у маі – яе будучаму мужу. Праз 3 гады ў пары нарадзілася дачушка Сафія.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

## Гаспадары катоў будуць задаволены

*Беларуская чыгунка з 1 студзеня спрасціла правілы правозу хатніх жывёл у міжнародных цягніках.*

Як паведамляе прэс-служба Белчыгункі, новаўвядзенне тычыцца тых пасажыраў, чый гадаванец (сабака, кот, птушка) змешчаны ў спецыяльную тару, памер якой па суме трох вымярэнняў не перавышае 200 см. У гэтым выпадку пасажыру не трэба выкупляць усе месцы ў купэ, як было раней. Дадатковая плата за правоз жывёл у гэтым выпадку таксама спаганяцца не будзе.

У той жа час Белчыгунка нагадвае, што для перавозкі хатніх жывёл патрэбны ўсе ветэрынарныя дакументы вызначанага ўзору.

БЕЛАРУСЬ–ЕС

# Социальная мастерская: взаимопонимание и работа помогают преодолеть зависимость

В районном центре Смолевичи Минской области вот уже почти год работает социальная мастерская. Ее создали, чтобы помочь людям, решившим избавиться от алкогольной и наркотической зависимости: предложить им работу, гарантирующую реальную перспективу заработка и возможность общаться с теми, кто относится к ним с уважением и пониманием, говорит руководитель проекта **Владислав Ковров**, много лет возглавляющий общественную организацию «Здоровый выбор».

*«Почувствовать себя человеком, без страха смотреть в завтра, – главное, что дает нам социальная мастерская»,* – *говорят участники проекта для людей, решивших избавиться от зависимости.*

### Главное – устойчивый результат

Изначально проект «Социальная мастерская», финансируемый Европейским Союзом с января по июнь 2016 года, планировался как устойчивый. Это было существенным условием. Инициатива оказалась успешной и востребованной, мастерская работает и сегодня.

*«Мы добились первых успехов, стремимся стать коммерчески успешным предприятием, продукция – гипсовые фигурки – идет на продажу и на организацию благотворительных акций»,* – говорит Владислав Ковров. По его словам, уникальность проекта в использовании опыта групп самопомощи, объединяющих людей с одинаковой проблемой: общаясь между собой, они помогают друг другу.

*«Среди работающих в мастерской есть те, кто уже забрал своих детей из приюта, но за их содержание выплачивает долг – до 70 процентов заработка. Участники проекта могут заработать в месяц 200–300 долларов в рублевом эквиваленте, но в мастерской людей держит не только зарплата»,* – констатирует Владислав. Это подтверждают и работники мастерской, рассказывая, как долго они преодолевали зависимость и почему для них важно работать в кругу людей с похожими проблемами. По их словам, мало бросить пить или употреблять наркотики, нужно научиться по-другому жить и бороться с отрицательными эмоциями.

### «В Беларуси сложно выжить тем, кто бросил пить»

– *В Беларуси сложно выжить тем, кто бросил пить и имеет стаж трезвости, люди чувствуют себя изгоями, тяжело найти работу. Это порождает злобу, агрессию, иногда срыв, круг замыкается,* – говорит работающий в мастерской 52-летний Владимир. Девять лет назад он переехал в Смолевичи из Минска, где, как он говорит, *«пропил трехкомнатную квартиру».* Прошлое вспоминает как страшный сон. Пить начал в 15 лет после смерти матери. Отец-алкоголик умер, когда Владимиру был 21 год. Тогда же женился, но бросить пить не смог. Через 10 лет от него ушла жена вместе с двумя их дочерями. Работал водителем, потом почти на всех минских заводах слесарем, везде ценили как хорошего работника, часто закрывали глаза на его пьянство, но в итоге отовсюду приходилось увольняться.

– *На сегодня стаж трезвости почти 11 лет, мне помогли в группе самопомощи, где я узнал про социальную мастерскую,* – рассказывает Владимир.

Атмосфера в мастерской, по его словам, дает надежду на нормальную жизнь:

– *Мы помогаем друг другу, видим результат, к нам приезжают люди, такие как мы, – из Жодино, Минска, Борисова, уверен, что пусть не всем, но многим такое общение и совместная работа помогают изменить жизнь.*

### «Я рассказываю о своем прошлом, чтобы помочь другим»

Рассказом о себе 35-летний житель Смолевичей **Валерий** делится *«без страха и в надежде, что кому-то поможет его история»,* в которой нагромождение проблем шло по нарастающей до момента, когда Виталий узнал о группах самопомощи, а там – о проекте «Социальная мастерская».

– *Я из хорошей семьи,* – рассказывает Валерий, – *родители – уважаемые в городе люди. Понимал, что причиняю им много горя, но остановиться не мог. Моя история – классика жанра: выпивка – легкие наркотики – игромания. Все началось в 14 лет со спиртного, тогда и потом опьянение окрыляло, чувствовал себя лидером. Окончив 9 классов, пошел в ПТУ, тогда к алкоголю добавились легкие наркотики.*

Решение изменить жизнь Валерий принимал неоднократно. Надеялся на армию, но там попросился на работу в котельную, уходил по ночам покупать спиртное, все вернулось на круги своя. После армии Валерий решил, что его остановит ответственность за свой бизнес:

– *Родители помогли деньгами, открыл торговую точку на рынке, купил машину. Дела быстро пошли в гору, но ненадолго. Я окунулся в компанию, где считалось, что пьют некрутые ребята, а крутые – курят наркотики. На них уходила вся немалая выручка, бизнес прогорел.*

Следующей попыткой расстаться с проблемами была женитьба:

– *Думал, что ответственность за семью остановит. Через два года родилась дочь. Но к алкогольной и наркотической зависимости добавилась игромания. Банки давали «быстрые кредиты», увяз в долгах, из семьи пришлось уйти. В 2009 году совершил преступление, попал в тюрьму за разбой. Вышел оттуда досрочно, семья меня приняла, и в очередной раз твердо решил, что с прошлым покончено.*

Но свое слово Валерий нарушил. Пришлось уйти из семьи.

– *Однажды я очнулся, сидя на обочине тротуара в Минске. Без денег. Идти некуда. К родителям нельзя: невыносимы мамины слезы,* – так описывает Валерий последний эпизод из (в этом он сегодня уверен) прошлой жизни. Тогда он думал о суициде.

– *Поехал попрощаться с мамой, а она уговорила меня лечиться в реабилитационном центре. Там меня познакомили с группой анонимных алкоголиков, потом с организацией «Здоровый выбор». Так я попал в социальную мастерскую, которая помогает жить.*

Валерий три года не пьет, но, по его словам, уверенность появилась только тогда, когда начал работать в мастерской:

– *К прошлому возврата нет. Создателям мастерской – только слова благодарности: мне помогли почувствовать себя нормальным человеком. Сегодня живу без страха встретить старых «друзей», знаю, что им ответить, уверен, что есть поддержка – люди, которые работают вместе со мной. Вернулся в семью, отношения наладились с женой, 10-летней дочерью и другими родственниками.*

Проект «Социальная мастерская», уверен Валерий, помогает сегодня почти сотне людей. Кроме того, эта инициатива – удачный пример социального предпринимательства, которое только начинает развиваться в Беларуси.

**Елена ДАНЕЙКО.**

eurobelarus.info

***

*Местная инициатива «Социальная мастерская» реализуется с 1 января 2016 года в рамках проекта «Содействие развитию на местном уровне в Республике Беларусь» при поддержке Европейского Союза, Министерства экономики Республики Беларусь и Программы развития ООН (ПРООН). Цель инициативы – разработать и внедрить нестандартные модели поддержки лиц, злоупотребляющих алкоголем, и членов их семей в Смолевичском районе.*

ДЫПКУР'ЕР

## Прызначаны новы пасол Ізраіля ў Беларусі

*На гэтай пасадзе зацверджаны **Алон Шохам** – прафесійны дыпламат, выхадзец з Латвіі.*

Раней Шохам працаваў кіраўніком консульскага дэпартамента МЗС Ізраіля. Вясной 2016 года на працягу месяца Шохам быў у Беларусі і займаў пасаду Часовага Паверанага ў Справах Ізраіля.

Як вядома, у жніўні 2015 года было абвешчана пра рашэнне ўрада Ізраіля закрыць пасольства ў Беларусі, а ў сакавіку 2016-га было прынята рашэнне захаваць прадстаўніцтва ў Мінску. Але было невядома, у якім менавіта фармаце і складзе яно будзе працаваць. Папярэдні пасол Ізраіля Іосіф Шагал завяршыў дыпламатычную місію ў Беларусі ў канцы лета 2015 года.

З 26 лістапада 2015 года паміж Ізраілем і Беларуссю дзейнічае бязвізавы рэжым.

ПО ПОВОДУ

Мария ЭЙСМОНТ

# Народ отстоял?

Как воспринимать новость о том, что строительство костела в столичном парке Котовка остановлено из-за протестов местных жителей?

Да, люди выходили на стихийные акции, собирали подписи, подключили к борьбе экологов, ложились под бульдозер, дрались со строителями. И только после этого председатель Мингорисполкома Андрей Шорец сдался: «Наверное, строить там ничего не будем...»

Но неужели кто-то серьезно думает, что дело только в народном бунте? Столичные власти не выдержали людского натиска и уступили? Часто ли в современной Беларуси чиновники из-за людских протестов отменяют свои же решения? А Котовка как площадка для строительства католического храма была выбрана не по желанию Костела, это решение Мингорисполкома. «Не мы выбираем», – заметил митрополит Кондрусевич.

Почему не смогли, например, минчане отстоять здание Московского вокзала, на месте которого российский «Газпром» решил построить свой офис? И петиции в госорганы писали, и газеты письмами заваливали, и авторитетных людей подключали, но достаточно было решения сверху – и вокзал, в строительство которого были вбуханы немалые бюджетные деньги, снесли вмиг.

Помешали людские протесты уплотнять и без того густозаселенные микрорайоны и центральные улицы столицы, уничтожать исторические здания? Слабо сопротивлялись, вяло возмущались – скажет кто-то. Если забыли – я напомню одну историю.

В 2012 году не менее активно, чем сегодня в Котовке, в микрорайоне «Уручье-2» местные жители встали на защиту небольшого сквера. Городские власти дали разрешение на строительство в этой зеленой зоне нескольких многоэтажек для сотрудников ОМОНа, под нож должны были пойти 90 (!) деревьев. Протесты длились несколько месяцев, люди даже самовольно установили в сквере мемориальный знак в честь генерала Руссиянова, именем которого названа улица, надеясь, что хоть это остановит строительство в сквере. Все оказалось бесполезным. С протестующим народом никто долго не церемонился. На одной из акций милиция на глазах у собравшихся задержала активиста Леонида Мажальского. На него составили три административных протокола: за организацию несанкционированного собрания, преграду строителям и сопротивление милиции. Суд впаял активисту пять суток ареста и штраф 20 базовых величин. Устрашающая мера быстро подействовала – больше на акции в Уручье никто не выходил.

Власти давно все решают за нас, с нашим мнением не считаются, когда переименовывают проспекты, забирают льготы, облагают налогами и пошлинами, которых нигде в цивилизованном мире нет. А сейчас вдруг чиновники одумались, прислушались к мнению защитников природы. Вы верите в это? А если завтра появится идея построить в Котовке очередной многофункциональный торгово-развлекательный комплекс с паркингом, как думаете, удастся местным жителям отстоять сквер?

То, что в канун католического Рождества белорусским католикам отказали в строительстве костела в столичном сквере, – это не только народ так захотел, это власти так решили. А почему пошли на этот шаг на фоне явно потеплевших отношений с Ватиканом – это уже другой вопрос.

Возможно, потому, что Костел – это не «Газпром» и не спецназ, не арабы и не турки, получающие в городе лучшие куски земли под строительство. Да и возмущаться Католическая церковь не будет. Костел научился в условиях доминирования в стране православной веры обходить острые углы, лавировать, чтобы не навредить себе и верующим.

Хотя, конечно, поразила такая яростная борьба местных жителей вкупе с «зелеными» против строительства… храма. Когда пару лет назад в столичных парках спиливали взрослые ели и березы ради теннисных кортов, вырубали росшие десятилетиями деревья для будущей гостиницы «Пекин», «зеленые» под трактора не ложились, глотку, как в Котовке, не рвали. Пошумели немного, получили от ворот поворот... и протесты сошли на нет. Почему именно сейчас защитники природы ведут себя так бойко, даже агрессивно? Неужели и вправду думают, что католический храм может нанести непоправимый ущерб старому, со своей историей, но не очень ухоженному, полузаброшенному скверу? Что, рядом с костелом не смогут гулять мамы с колясками, прохаживаться старики, кататься на роликах молодые люди?

Если проехать по белорусским деревням, райцентрам, то нетрудно убедиться: самые ухоженные, досмотренные, радующие глаз своей красотой и чистотой территории – вокруг костелов и церквей. Более чем вероятно, что и Котовка с появлением костела улучшила бы внешний вид.

*«Сам костел занимает 1,5% сквера. Около 50 деревьев надо срубить. Мы посадим больше»,* – объяснял митрополит Кондрусевич. Но люди, увлеченные сопротивлением, его не услышали. А чиновники неожиданно (?) продемонстрировали невиданный демократизм, зависимость своих решений от народного мнения и остановили строительство храма.

Митрополит Тадеуш Кондрусевич рассчитывает на встречу с главой Минска Андреем Шорцем. Чем закончатся переговоры?

Как власть решит – так и будет!

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Марыя МАМАШУК:

# «Няхай дае Бог здароўя!»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" павіншаваў са святамі сярэбранага прызёра Алімпійскіх гульняў-2016 па вольнай барацьбе Марыю МАМАШУК, якую прызналі лепшай беларускай спартсменкай мінулага года.*

Працоўны графік у Машы распісаны па хвілінах. Асабістыя справы, трэніроўка, прызначаная сустрэча. Праз дзень – ізноў у дарогу. Жыццё спартсмена – яно на чамаданах…

– Нягледзячы на тое, што мінулы год быў алімпійскі, я не сказала б, што ён аказаўся для мяне занадта складаным, – кажа наша суразмоўца. – Проста даводзілася больш адказна ставіцца да справы.

**– Рыхтаваліся да Гульняў па нейкай асаблівай методыцы?**

– Нічога асаблівага не прыдумвалі, дапрацоўвалі тое, што мелі. Дарэчы, трэніраваліся мы толькі ў Беларусі, нейкіх замежных збораў не было. Тым больш што і дома створаны ўсе ўмовы. Можна было, безумоўна, патрэніравацца і ва ўмовах высакагор'я, але эксперыментаваць не мела сэнсу. Невядома, як павёў бы сябе мой арганізм.

**– З вагой праблем не было?**

– Да Алімпіяды трэба было скінуць 5,5 кілаграма, але гэта не вельмі вялікая праблема. Два тыдні – і лішняй вагі як не было. У мяне свая дыета, я ведаю, як правільна трэба ўсё рабіць. Харчаванне, лазня… Як кажуць, не першы раз замужам, ведаю свой арганізм цудоўна.

**– Нешта змянілася ў вашым жыцці пасля Гульняў?**

– Магчыма, я стала больш папулярнай, часам на вуліцы пазнаюць. Ведаеце, заўсёды прыемна пачуць добрае слова, але я не зацыкліваюся на сваім алімпійскім дасягненні і не крычу на кожным вуглу: "Паглядзіце на мяне, я – прызёр Алімпіяды!" Медаль – гэта ўсяго толькі частка маёй працы, не больш за тое. І гэта ўжо гісторыя.

**– Акрамя прызавых, магчыма, вы атрымалі за "серабро" на Алімпіядзе і нейкія іншыя дывідэнды? Можа быць, улады Гомеля зрабілі бясплатны праезд у гарадскім транспарце для прызёра Гульняў?..**

– Не, такіх прапаноў не паступала *(смяецца)*. Ды і я больш люблю "вандраваць" па горадзе не на гарадскіх аўтобусах, а на ўласным аўто. А вось з вырашэннем "кватэрнага пытання" абяцалі дапамагчы. Праўда, хто яго вырашыць і ў якія тэрміны – мне не вядома. Пакуль жа даводзіцца, як і раней, здымаць кватэру.

**– Ці не вырашылі пасля Алімпіяды змяніць сямейнае становішча?**

– Не ўтойваю: хлопец у мяне ёсць (ён, да слова, таксама барэц). Але, шчыра кажучы, нават часу няма, каб заняцца арганізацыяй вяселля.

**– Ведаю, што раней вы марылі стаць хірургам…**

– Так, была мара паступіць у Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, але давялося зрабіць выбар: спорт альбо медыцына. І, паколькі я вырашыла прафесійна займацца вольнай барацьбой, то бегаць за двума зайцамі не мела сэнсу. Зараз, дарэчы, я заканчваю магістратуру ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны.

**– Новы год для вас – сямейнае свята?**

– Так, але толькі ў тым выпадку, калі планы не змяняюцца. Люблю сустракаць Новы год з сябрамі, сваім маладым чалавекам…

**– У навагоднюю ноч жаданне не загадваеце?**

– Аднойчы напісала жаданне на паперцы, але нават і не памятаю, ці спраўдзілася яно. Але гэта было нейкімі дзіцячымі гульнямі. Я ведаю, што найперш усё залежыць ад мяне самой. Таму жаданне адно – няхай дае Бог здароўя. У свой час з-за траўмы я на сем месяцаў аказалася выключанай са спартыўнай барацьбы, таму няхай у 2017 годзе мяне абмінае гэтае ліха. І наогул усім жадаю моцнага здароўя! Усё астатняе дадасца…

**Алесь СІВЫ.**

КІНАПРЭМ'ЕРА

# Удалы стрэл «Партызана»

*Напярэдадні Новага года ў кінатэатры «Масква» адбылася доўгачаканая прэм'ера фільма Андрэя Курэйчыка «PARTY-ZAN фільм». Гэта першая беларуская незалежная маладзёжная камедыя і першы айчынны фільм у беларускай гісторыі, які патрапіў у навагодні пракат на шырокі экран. Пры тым што стужка знята без дзяржаўнага фінансавання, выключна на сродкі прадзюсарскай групы, сяброў і партнёраў.*




Асноўныя здымкі фільма праходзілі ў жніўні мінулага года ў Мінску, Брэсце і нават Маскве. У адрозненне ад папярэдняй карціны Курэйчыка, філасофскай трагікамедыі «ГараШ», новая стужка – маладзёжная эксцэнтрычная камедыя. Сюжэт вельмі дынамічны, у ім больш лакацый, задзейнічана больш акцёраў. У цэнтры гісторыі – маладыя праграміст і прадпрымальнік. Абодва прагнуць славы і грошай, але пакуль не маюць наогул нічога. Галавасты і кемлівы праграміст Дзяніс сядзіць без працы, бо яго выгналі з «Фангеймінга» за тое, што ў час працы ён займаўся вырашэннем сваіх фінансавых праблем. А прыгажунчык-гуляка і свавольнік Аляксей – не самы ўдалы прадпрымальнік. Спрабуе зарабіць рознымі спосабамі, але ўсе яго праекты прагараюць. Чыста выпадкова Дзяніс, рамантуючы камп'ютар чыноўніка «Беларусьфільма», даведваецца, як можна выправіць сітуацыю.

І вось хлопцы аб'ядноўваюцца і рашаюцца на авантуру – прадстаўляюцца маскоўскай кінагрупе як беларускія кінапрадзюсары і бяруцца зняць для іх некалькі ваенных сцэн…

«PARTY-ZAN фільм» – гэта ўжо трэцяя карціна маладога творчага аб'яднання Bez Buslou Arts, якое ставіць сабе на мэту выдаваць па адным фільме ў год.

Выдаткі на стварэнне стужкі яшчэ дакладна не падлічаны, вядома толькі, што яны прыблізна склалі каля 40.000 долараў (у асноўным гэта грошы, прынесеныя мінулай карцінай, і спонсарская падтрымка больш як 20 партнёрскіх праграм і арганізацый і генеральнага партнёра – ЗАТ «БСБ Банк»). Па сённяшніх мерках грошы для кінаіндустрыі невялікія. Ведаючы творчы талент, маркетынгавыя і прамоўтарскія здольнасці Андрэя Курэйчыка, б'юся аб заклад, што фільм акупіцца. Адна толькі піяр-акцыя і закрытая прэзентацыя для VIP-персон з «Дональдам Трампам» за тыдзень да пракату былі арганізаваны так, што большасць беларускіх рэжысёраў могуць толькі пазайздросціць. Гарачая цікавасць да фільма яшчэ на стадыі пострадакшну, рэакцыя гледачоў падчас прэм'еры: смех у зале на працягу ўсёй карціны, авацыі падчас прагляду і асабліва ў канцы фільма – усё гэта сведчыць пра тое, што наш «Партызан» стрэліў трапна і ўдала і касавыя зборы мусяць быць пабіты. Папярэдняя стужка, дарэчы, атрымала збораў амаль у шэсць разоў больш за бюджэт. Гэтым разам стваральнікі плануюць сабраць касу ў тры-чатыры разы большую за бюджэт. У свой час «ГараШ» стаў трэцім па зборах. Больш таго, адміністрацыя кінатэатра прызналася, што для беларускай стужкі запаўняльнасць залы была неверагоднай. Зрэшты, гэта зразумела, бо глядач збольшага ў асноўным ішоў менавіта на Курэйчыка.

Між іншым, «PARTY-ZAN фільм» стаў адзіным беларускім фільмам у навагоднім пракаце – самым канкурэнтным часе ў кінематографе, калі робяцца максімальныя зборы. У гэты перыяд цяжэй за ўсё прабіцца на шырокі экран. «Партызанам» давядзецца трымаць канкурэнцыю з расійскімі карцінамі «Вікінг» і «Бітва чараўнікоў», камедыяй «Елкі-5» (Курэйчык быў сцэнарыстам першай часткі фільма), вялікай колькасцю якасных поўнаметражных мультфільмаў. Барацьба за гледача разгортваецца нежартоўная.

І апошняе. Галоўныя ролі ў фільме выканалі ўзыходзячыя зоркі беларускага тэатра і кіно: Аляксандр Тарасаў, Аляксандр Душачкін і Аліса Аўчыннік. Таксама ў стужцы зняўся і шэраг зорак беларускага тэатра і кіно: Эвеліна Сакура, Аляксандр Ефрэмаў (мал.), Іван Шчатко, Генадзь Гатоўчыц, Юрый Зінчанка, Сяргей Уласаў і іншыя. Ужо традыцыйна ў фільме Андрэя Курэйчыка зняўся лідар групы «Нейра Дзюбель» Аляксандр Куллінковіч, а таксама яго калега па музычным гурце Юрый Навумаў. Нечаканасцю стала першае з'яўленне на экране ўсёй сям'і Андрэя Курэйчыка – былой жонкі Вольгі Курэйчык (актрысы Купалаўскага тэатра), сына Глеба і дачкі Марты.

Музыку да фільма напісаў кампазітар і супрадзюсар праекта Дзмітрый Фрыга. Апроч яго музыкі ў фільм увайшлі кампазіцыі пераможцаў музычнага конкурсу, які быў абвешчаны «PARTY-ZAN фільм» падчас стварэнні стужкі: беларускіх гуртоў "Усе Crazy", SuperBullz, «Нейра Дзюбель», Зміцера Вайцюшкевіча, гурта Recha і іншых.

**Алег ГРУШЭЦКІ.**

НА ЗАМЕТКУ

# 10 популярных продуктов, от которых мы незаметно полнеем

*Многие жалуются, что едят вроде бы умеренно, но почему-то набирают вес. Диетологи выяснили, что держать себя в форме нам порой мешает самая привычная еда, от которой никто не ждет подвоха. Вот список продуктов, от которых нужно держаться подальше.*




### 1.Кукурузные хлопья

«Ешьте хлопья, чтобы похудеть», – утверждают стройные и спортивные девушки из рекламных роликов. И мы слепо им верим, каждое утро практически на автомате заливая хлопья стаканом молока. Но так ли они полезны для нашей фигуры? На самом деле стандартная порция хлопьев, равная примерно половине стакана, содержит 37 г сахара (чуть больше 7 ложек), что уже превышает дневную норму. А ведь впереди еще целый день…




### 2.Шоколадные батончики

Шоколадные батончики – самый простой и быстрый вариант перекуса, когда времени нет, а есть хочется. Сегодня батончик, завтра батончик, а через неделю мы уже не влезаем в любимые джинсы. А все потому, что углеводы, содержащиеся в любимых нами шоколадках Mars и Snickers, – это фактически один сплошной сахар. Один стандартный батончик весом 55 граммов содержит в своем составе 27,5 грамма сахара, что равняется примерно 6–7 чайным ложкам.




### 3.Йогурты и творожные десерты

Ну уж тут точно нет никакого подвоха, ведь даже диетологи рекомендуют включать в рацион йогурты, творог или кефир! Вот только все эти рекомендации относятся к натуральным продуктам без каких-либо дополнительных подсластителей и усилителей вкуса. К магазинным же творожкам, йогуртам и молочным коктейлям это не относится. Так, 290-граммовая бутылочка популярной у любителей здорового образа жизни "Активии" содержит примерно 6 чайных ложек сахара, а 130-граммовая упаковка "Даниссимо Персик" – 3,5 ложки.




### 4.Pepsi и Coca-Cola

Мы любим эти напитки за то, что они утоляют жажду и притупляют чувство голода. Но и тот, и другой эффект длится недолго, и уже спустя 10–15 минут мы снова хотим пить и есть. Вот так незаметно в наш организм поступают лишние калории, которые затем откладываются в складки на нашей талии. Откуда они берутся? Конечно, из сахара! Так, маленькая баночка Pepsi объемом 0,33 литра содержит 8 чайных ложек сахара, а такая же банка Coca-Cola – 7 ложек.




### 5.Глазированное драже

"Ну что может случиться от крохотного пакетика M&M'S?» – уговариваем мы себя на кассе, в последнюю минуту хватая со стойки упаковку с разноцветными конфетками. Придется вас расстроить: в 100 граммах этого драже содержится 472 калории! Что касается количества сахара, то в стандартном 45-граммовом пакетике его содержится почти 6 чайных ложек.




### 6.Nutella

Популярный завтрак – пара тостов, намазанные ореховой пастой Nutella. Чем это может нам грозить? Давайте посмотрим на этикетку: сахар, пальмовое масло, орехи, какао, сухое молоко, лецитин, ванилин и сухая молочная сыворотка. Nutella очень калорийна, потому что на 70% состоит из жиров и сахара: всего 2 столовые ложки этой пасты содержат 200 калорий и 21 грамм сахара!




### 7.Кофе 3 в 1

Когда нам не хватает времени даже на чашечку кофе, в ход идут стики с быстрорастворимым напитком. Вот только никакой пользы для организма в таких пакетиках практически нет. Стандартный 20-граммовый пакетик кофе 3 в 1 содержит примерно 70 калорий и 10 граммов сахара. Стоит ли сомнительное удовольствие лишних сантиметров на талии?




### 8.Кетчуп

Неожиданно, правда? Оказывается, соленый кетчуп с пикантным и чуть островатым вкусом тоже содержит в себе сахар. Причем в немалых количествах – в 100 граммах этого любимого многими соуса содержится от 20 до 30 граммов сахара. Конечно, никто из нас не ест кетчуп упаковками, но стоит задуматься, сколько лишнего жира накопится у нас за месяц его регулярного употребления. А за полгода?




### 9.Пакетированные соки

Мы с детства знаем, что соки – это не только вкусно, но и полезно. Но к пакетированным сокам это утверждение мало применимо, учитывая высокое содержание в них сахара. Так, 350-граммовый стакан виноградного сока содержит примерно 58 граммов сахара, яблочного – 39 граммов, а вишневого – 37 граммов.




### 10.Энергетические напитки

Что делать, если хочется спать, а впереди еще много работы? Бывалые полуночники советуют взбодриться баночкой энергетического напитка. Он действительно может на какое-то время повысить вашу работоспособность, вот только злоупотреблять им не стоит. В противном случае возможно значительное повышение артериального давления или уровня сахара в крови. Кстати, о сахаре. В одной баночке Red Bull, например, содержится целых 27 граммов сахара, а это значит, что, злоупотребляя этим напитком, можно очень быстро набрать лишний вес.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# С вами случился обморок…

*Причин внезапного обморока множество. Обмороки бывают у каждого пятого – по крайней мере хотя бы однажды в жизни. Попробуем разобраться в наиболее распространенных причинах.*

Одной из причин может стать падение артериального давления. В частности, это случается из-за всевозможных критических состояний: тепловых ударов, шоков, сильных потерь крови и прочих ситуаций. Часто обмороки случаются у гипотоников – людей с аномально низким артериальным давлением (когда у женщин оно 90/60, а у мужчин – 100/60 мм рт. столба). При артериальной гипотензии лучше всего помогает тренировка сосудов. Это средство действенно и как сугубо лечебное, и как профилактическое. Например, обливание холодной водой, баня (сауна), контрастный душ, гидромассаж и массаж. Правда, с соблюдением необходимых мер предосторожности. Нелишними будут изометрические упражнения с кистевым эспандером, который тренирует в организме рефлекс поддержки оптимального артериального давления.

Еще одна причина обмороков – снижение в крови уровня сахара. Мы говорим о гипогликемии, когда уровень глюкозы ниже 2,8 ммоль/л. Для жизни легкая гипогликемия опасности не представляет, однако действенные меры не помешают – чтобы состояние человека не ухудшилось.

Когда есть гипогликемия, следует очень быстро повысить или нормализовать сахар в крови. Когда возникнут первые симптомы, следует без промедления принять от двадцати до тридцати граммов чистого сахара либо иных быстровсасываемых углеводов. К таким симптомам относятся потливость, острое чувство голода, ухудшение зрения в сумерках, дрожь в конечностях. Для диабетиков лучше всего, когда они выходят из дома, захватить с собой пакетик сока или несколько кусочков сахара – сахар усваивается быстрее всего, чем и отличается от прочих углеводистых продуктов.

В обмороке можно винить внезапно возникшее кислородное голодание. Это нередко случается с людьми, долго пребывающими в неподвижном состоянии. Обморок может случиться при резком вставании или поворачивании шеи, а также вследствие воздействия тугого воротничка. Нередко такие обмороки носят регуляторный, сугубо рефлекторный характер. И пугаться их не стоит. .

Нарушение ритма сердца, урежение либо учащение – тоже дорожка к обмороку. Наиболее опасная причина внезапной потери сознания – сердечная аритмия, которая возникает на фоне физической и эмоциональной нагрузки. Увы, она способна привести к окончательной остановке сердца. Чтобы этого не произошло, обязательно пройдите обследование.

Если вы почувствовали в транспорте, что приближается обморок, скрестите ноги. Потом несколько раз резко ритмично напрягите мышцы бедер и пресса. Благодаря этому возрастет приток крови от нижних конечностей к голове.

Почувствовав скорый обморок на улице, присядьте на одно колено – таким образом, словно завязываете шнурок. Можно поставить одну ногу на возвышение. И помните, что помимо уже названных причиной обмороков могут быть анемия, повышение внутричерепного давления, эпилепсия, транзисторные ишемические атаки (преходящее нарушение мозгового кровообращения), вегетососудистая дистония, инсульт.

(Из зарубежной прессы.)



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 2.01.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 74.

9 772071 964000 17001